Информационный бюллетень

# КАРАНІ

№ 6 жнівень, 2000 г.

# З'езд за незалежнасць

2 жніўня ў Мінску ў Палацы культуры танкасуконнага камбіната адбыўся Ўсебеларускі з'езд за незалежнасць. З ініцыятывай яго правядзення яшчэ ў лютым гэтага года выступіла вялікая група грамадскіх дзеячаў, вучоных, прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі. У іх ліку людзі, вядомыя не толькі ў Беларусі: народная артыстка СССР Стэфанія Станюта, народны пісьменнік Янка Брыль, народныя паэты Ніл Гілевіч і Рыгор Барадулін, акадэмік Радзім Гарэцкі і іншыя.

На з'ездзе прысутнічала больш як 1200 дэлегатаў з усіх рэгіёнаў Беларусі, выбраных па тэрытарыяльнаму прынцыпу на сходах грамадскасці, а таксама дэлегаты ад палітычных партый і прафесійных саюзаў, іншых аб'яднанняў.

Галоўная мэта, дзеля якой праводзіўся з'езд - выпрацоўка і прыняцце Акта незалежнасці. Выступаючыя дэлегаты неаднаразова падкрэслівалі тую думку, што яны не супраць супрацоўніцтва з Расіяй. «Мы былі, есць і будзем яе добрымі і самымі блізкімі суседзямі, - сказаў, напрыклад, акадэмік Радзім Гарэцкі. - Аднак трэба імкнуцца да таго, каб і вялікая дэмакратычная Расія, і вольная Беларусь - кожная - занялі свае належнае месца ў агульнаеўрапейскім доме».

Дэлегаты заклікалі ўсіх грамадзян Беларусі, усіх суайчыннікаў за мяжой згуртавацца вакол ідэі Акта незалежнасці Беларусі, бараніць незалежнасць Бацькаўшчыны, а парламенты і ўрады дэмакратычных дзяржаў, міжнародныя інстытуты і сусветную грамадскасць - забяспечыць гарантыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

На з'ездзе прынялі ўдзел і дэлегаты абраныя ад дэмакратычнай Лоеўшчыны.

Хаця напярэдадні з'езда тут не абышлося, як кажуць, «без лыжкі дзегця». Нягледзячы на тое, што з'езд быў афіцыйна дазволены беларускімі ўладамі, мясцовыя ўлады імкнуліся не дапусціць дэлегатаў ад Лоеўшчыны ў Мінск і, каб западохаць іх, запрасілі аднаго з дэлегатаў у аддзел міліцыі на гутарку.

**Наш кар.**

# АКТ незалежнасці Беларусі

**Мы, дэлегаты Усебеларускага з'езда, паўнамоцныя прадстаўнікі народа Беларусі,**

**- усведамляючы адказнасць за будучыню краіны;**

**- нагадваючы, што Рэспубліка Беларусь з'яўляецца дзяржавай - заснавальніцай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый;**

**- грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага і нацыянальнага права,**

**заяўляем:**

**Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваей дзяржаўнасці: ад Полацкага княства, Вялікага княства Літоўскага да сучаснай Рэспублікі Беларусь. Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце сцвярджае яго дзеля галоўнай мэты - свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна Беларусі. Яна абвяшчае незалежнасць краіны ў вонкавых дачыненнях, вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падставе правамоцных законаў. Любыя дзеянні супраць суверэнітэту Беларусі і нацыянальнай дзяржаўнасці недапушчальныя і павінны карацца як найвялікшае злачынства. Дзяржаўны суверэнітэт быў замацаваны ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 года. Паводле яе Беларусь увайшла ў свет як нейтральная, мірная і без'ядзерная дзяржава.**

**Незалежнасць Беларусі з'яўляецца набыткам не толькі сенняшняга пакалення, але і нашых продкаў і належыць нашчадкам. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны альбо скасаваны праз рашэнні дзяржаўных асоб і органаў, нават праз рэферэндум.**

**Сення незалежнасць Рэспублікі Беларусь знаходзіцца пад пагрозай. Рэальнай небяспекай стаў дагавор аб стварэнні так званай саюзнай дзяржавы з Расіяй, падпісаны 8 снежня 1999 года прадстаўнікамі беларускіх улад, чыя легітымнасць не прызнаецца ў большасці краін свету. Мы - за добрыя, раўнапраўныя і ўзаемавыгадныя адносіны з усімі краінамі свету, і асабліва з суседзямі: Расіяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй. Але мы не жадаем станавіцца рэгіёнам іншай дзяржавы. Мы не дазволім ліквідаваць нашу незалежнасць і абмежаваць наш суверэнітэт, знішчыць нашу краіну.**

**Незалежнасць - гэта натуральнае права ўсяго народа, кожнага грамадзяніна. Толькі яна і толькі дзяржаўны суверэнітэт адкрываюць шлях ў еўрапейскую і міжнародную дэмакратычную супольнасць.**

*Заканчэнне на ст.2*

# Акт незалежнасці Беларусі

*Пачатак на ст.1*

**Мы, дэлегаты Усебеларускага з'езда,**

**СВЕДЧЫМ**

**Богам і гісторыяй дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву з яе адвечнымі сімваламі - бел-чырвона-белым сцягам і гербам «Пагоня»**

**АБВЯШЧАЕМ**

**Незалежнасць і дзяржаўны суверэнітэт неад'емнай каштоўнасцю беларускага народа;**

**ПРЫЗНАЕМ**

**Не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэта Беларусі;**

**ЗАКЛІКАЕМ**

**Усіх грамадзян Беларусі і ўсіх суайчыннікаў за мяжой згуртавацца вакол ідэй Акта Незалежнасці Беларусі, бараніць незалежнасць Айчыны;**

**Парламенты і ўрады дэмакратычных дзяржаў, міжнародныя арганізацыі і сусветную грамадскасць забяспечыць гарантыю суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.**

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

***Прынята Усебеларускім з'ездам 29 ліпеня 2000 года ў Мінску.***

ВЫБАРЫ

# Галасуй, не галасуй...

Як мы ўжо паведамлялі, на 15 кастрычніка 2000 года прызначаны выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. У сувязі з гэтым Цэнтрвыбіркам утварыў на тэрыторыі краіны 110 выбарчых акруг, у якіх неабходна абраць 110 дэпутатаў. Лоеўскі раен увайшоў у Хойніцкую выбарчую акругу № 49. Акрамя нашага раена ў склад акругі ўвайшлі Брагінскі і Хойніцкі раены цалкам, а таксама частка Рэчыцкага раена ў межах: г.Васілевічы, Артукоўскага, Бабіцкага, Белабалоцкага, Вышамірскага, Заспенскага, Караваціцкага, Новабарсукоўскага, Ліскаўскага, Ровенска-Слабадскога, Свірыдавіцкага, Холмецкага сельсаветаў. Колькасць выбаршчыкаў у акрузе - 64700 чалавек.

Ужо зараз для кіраўніцтва падрыхтоўкай і правядзеннем выбараў створана акруговая выбарчая камісія, якая знаходзіцца па адрасе: г.Хойнікі, вул. Савецкая, 86, тэл. 2-21-33. Утвораны выбарчыя ўчасткі. На тэрыторыі Лоеўскага раена іх 23. Пачалася кампанія па вылучэнню кандыдатаў у дэпутаты.

Аляксандр Лукашэнка і яго акружэнне кожны дзень не стамляюцца гаварыць, што гэтыя выбары будуць празрыстыя і справядлівыя. Але ўжо сам пачатак выбарчай кампаніі прымушае ўсумніцца ў гэтым. Напрыклад, у складзе Хойніцкай выбарчай камісіі з 13 чалавек - 7 прадстаўнікоў уладных раенных структур. Гэту камісію ўзначальвае Васькевіч В.С. - намеснік старшыні Хойніцкага райвыканкама. Намеснікам старшыні камісіі з'яўляецца Баярын М.З. - намеснік старшыні Рэчыцкага райвыканкама. Сакратаром стаў Гвоздзеў Ф.А. - галоўны спецыяліст Хойніцкага раеннага савета дэпутатаў. Ад Лоеўскага раена ў склад гэтай камісіі ўвайшла адна Котава Ларыса Іванаўна - старшыня раеннага савета дэпутатаў.

Ведаючы склад акруговай камісіі, есць усе падставы сумнявацца, што яна здольна арганізаваць і правесці справядлівыя выбары ў акрузе. У народзе кажуць: « Галоўнае, - не як прагаласуюць, галоўнае, - хто падлічыць галасы». Вядома, у чыіх інтарэсах будуць лічыць нашы галасы чыноўнікі ўладных структур. Так што, галасуй, не галасуй, атрымаеш тое, што хочуць вярхі.

*У.Касцеяў*

# В худших советских традициях

Как свидетельствуют участники собрания по выдвижению кандидата в депутаты Палаты представителей Народного собрания по Хойникскому избирательному округу № 49, которое происходило 16 августа 2000 года в Уборковском сельском Доме культуры Лоевского района, это мероприятие было проведено в худших советских традициях.

Во-первых, о кандидате в депутаты Палаты представителей Кулике Виталии Васильевиче, директоре ООО «Речицкий комбинат хлебопродуктов», и его деятельности большинство присутствующих практически ничего не знали. Несмотря на то, что он был депутатом Верховного Совета 13-го созыва, а затем Палаты представителей, его деятельность в качестве парламентария неизвестна общественности в соседнем Лоевском районе. На Лоевщине его знает только узкий круг руководителей хозяйств и агропредприятий и для большинства присутствующих в зале он был своего рода «котом в мешке», которого привезли и предложили для выдвижения. Многие также были в недоумении, почему Кулик В.В. не выдвигается в Речицком районе, где, судя по всему, о его деятельности знают лучше.

Во-вторых, рабочих совхоза имени Ленина свезли на собрание под обещание выплатить заработную плату сразу же после его окончания.

В-третьих, на собрание удалось свезти не более 80 человек, хотя в трудовых коллективах совхоза имени Ленина и Лоевского ООО «Агрозапчасть», работает более 300 человек, и закон, в таком случае, требует участия более половины членов трудовых коллективов в выдвижении.

И итоги получены чисто советские. За выдвижение Кулика В.В. кандидатом в депутаты по Хойникскому избирательному округу № 49 проголосовали единогласно.

***В. Михайлов***

НАВІНЫ І ІНФАРМАЦЫЯ

## За аўтобусы і таксі давядзецца плаціць больш

**Як і прадказвала днямі «Звязда», у Беларусі ўводзіцца шэраг новых тарыфаў на паслугі пасажырскага аўтамабільнага транспарту.**

*У прыватнасці, зацверджаны тарыфы на перавозку пасажыраў на рэгулярных міжгародніх маршрутах: у аўтобусах агульнага тыпу - 9,2 рубля, у машынах з мяккімі адкіднымі сядзеннямі - 10,5 рубля за адзін кіламетр праезду. Зацверджаны тарыфы на перавозку пасажыраў на рэгулярных хуткасных міжгародніх маршрутах: у аўтобусах агульнага тыпу - 12 рублеў, у машынах з мяккімі адкіднымі сядзеннямі - 13,7 рубля за адзін кіламетр праезду.*

*Устаноўлены новыя тарыфы на перавозку пасажыраў на рэгулярных прыгарадных маршрутах: у аўтобусах агульнага тыпу - 6,3 рубля, у аўтобусах з мяккімі адкіднымі сядзеннямі - 6,8 рубля за адзін кіламетр праезду. Зацверджаны тарыфы на рэгулярных хуткасных прыгарадных маршрутах: у аўтобусах агульнага тыпу - 8,2 рубля, у машынах з мяккімі адкіднымі сядзеннямі - 8,8 рубля за адзін кіламетр праезду. Устаноўлены тарыфы на дадатковыя рэйсы на прыгарадных рэгулярных маршрутаў: у аўтобусах агульнага тыпу - 8,5 рубля, у машынах з мяккімі адкіднымі сядзеннямі - 9,2 рубля за адзін кіламетр праезду.*

*У абодвух выпадках - пры перавозцы пасажыраў на рэгулярных міжгародніх і прыгарадных маршрутах - кошт кожнага білета акругляецца пасля ўключэння ўсіх відаў аплат у адпаведнасці з дзеючымі нарматыўнымі прававымі актамі. Устаноўлены збор за папярэдні продаж і (ці) браніраванне білетаў у памеры 30 рублеў з кожнага білета. Устаноўлены кошт правозу кожнага месца багажу ў памеры 20 працэнтаў ад кошту праезда...*

*Сяргей Расолька,*
*«Звязда» 17 жніўня*

## Цены Лоевского рынка на 6.08.

| | |
|---|---|
| Молоко ( 3 л ) | **350** |
| Сметана ( 1 л ) | **700** |
| Творог ( 1 кг ) | **500** |
| Масло сливочное 1 кг | **1500** |
| Масло растительное 1 л в герм. упаковке | **650** |
| Яйцо 1 дес. | **500** |
| Окорочка куриные 1 кг | **1600** |
| Сало с мясом 1 кг | **2300** |
| Картофель (ведро 8 кг) | **900** |
| Сахар 1 кг | **520** |
| Рис 1 кг | **500** |
| Гречка 1 кг | **680** |
| Макарон. изделия 1 кг | **460** |
| Мука 1 кг | **350** |
| Капуста 1 кг | **150** |
| Бананы 1 кг | **650** |
| Апельсины | **650** |
| Огурцы | **100-150** |
| Лимоны | **1100** |

**В течение месяца на Лоевском рынке подорожал ряд продуктов питания: сахар - на 18%, гречка - на 5%, рис - на 12%, сметана - на 16%, окорочка куриные -,на 10%, макаронные изделия - на 8%, свинина - на 28%. Дешевле стали помидоры - в 2,4 раза, огурцы - в 4 раза, апельсины - на 15%, бананы - на 8%, капуста - в 2,3 раза, картофель - на 67%. Остались без изменения цены на муку, творог, молоко,, яйцо, масло сливочное и подсолнечное.**

**Наш кор.**

# Камунальныя тарыфы: якім чынам «секчы хвост сабаку»?

*Як ужо паведамлялася, выраслі плацяжы насельніцтва за кватэру. Ліпеньскія тарыфы па шэрагу пазіцый (халоднае водазабеспячэнне, каналізацыя, карыстанне ліфтамі) былі праіндэксаваны на 11,9 працэнта. Таксама з 5,39 да 6,03 рубля за кв. метр агульнай плошчы ўзрасла стаўка платы за карыстанне жылымі памяшканнямі (тэхнічнае абслугоўванне). Такім чынам, ужо ў жніўні жыхары разлічыліся за паслугі, што ім былі аказаны ў ліпені па новых расцэнках. Па-за межамі ліпеньскай індэксацыі засталіся тарыфы на гарачае водазабеспячэнне і ацяпленне. Іх павялічэнне адбылося ўжо ў жніўні - пастановай Мінэканомікі з сярэдзіны апошняга летняга месяца ўведзены новыя расцэнкі на гэтыя віды паслуг. Дакладней, вызначана мяжа павышэння ( да 50 працэнтаў), а ўжо рэальныя лічбы выведуць аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам. Пасля канкрэтныя даныя кожны ўбачыць у верасні ў сваей «плацежцы».*

*Што гэта азначае для насельніцтва? Па разліках спецыялістаў, сума аплаты за стандартную аднапакаевую кватэру агульнай плошчай у 32 «квадраты», дзе пражываюць два чалавекі, складзе дзесці 3 тысячы рублеў (у летні перыяд), у зімовы - каля 4400 рублеў. Для жыхароў двухпакаевай кватэры з агульнай плошчай 48 квадратных метраў, дзе пражываюць 3 чалавекі, - амаль 4000 і 6300 рублеў адпаведна. Такім чынам, павышэнне тарыфаў прывядзе да рэальнага павялічэнне плацяжоў за кватэру. Іншая справа ў тым, ці павысіцца пры гэтым працэнт пакрыцця насельніцтвам страт на аказанне камунальных паслуг, або наколькі рэальныя зрухі ў вырашэнні тарыфнага пытання ўвогуле. Тут, як кажуць, гледзячы на тое, з чым параўноўваць, з якім часам. Так, у 1997 годзе ў ацяпляльны перыяд жыхар аплачваў 47,1 працэнта сабекошту камунальных паслуг, у летні - 49,2. Уз-*

*Заканчэнне на наступнай стар.*

## Камунальныя тарыфы: якім чынам «секчы хвост сабаку»?

*Пачатак на стар.3*

*ровень пакрыцця страт на тую ж «цепленькую» быў роўны 36,2, а па стаўцы плата за карыстаннем жылымі памяшканнямі (тэхнічнае абслугоўванне) - 39,3 працэнта.*

*Пасля апошняга павышэння тарыфаў насельніцтва будзе кампенсаваць у летні перыяд пятую частку сабекошту, у зімовы - 21 працэнт. Плацяжы жыхароў за гарачае водазабеспячэнне нават пасля 50-працэнтнага «рыўка» не дасягнулі 12 працэнтаў пакрыцця страт на іх аказанне. Яшчэ адным «аўтсайдэрам» з'яўляецца стаўка платы за карыстанне жылымі памяшканнямі (тэхнічнае абслугоўванне) - 12,3 працэнта.*

*Як бачым, сітуацыя трохгадовай даўніны выглядае куды больш аптымістычна. З другога боку, пакуль узровень пакрыцця ўкладваецца ў параметры, што вызначаны ў селетнім бюджэце. Але хто ведае, куды ўжо праз месяц «прывядзе» гэтыя працэнты інфляцыя.*

***Захар Бурак,***
***«Звязда» 16 жніўня***

НАША ГІСТОРЫЯ

# Валадары Лоеўскай зямлі

Лоеўская зямля... Цудоўны і маляўнічы куточак нашай Беларусі. Зямля, якую ўпадабалі і засялілі нашы прашчуры яшчэ ў далекай старажытнасці. Якой была яна ў мінулым, хто тут жыў і валодаў ею, пачынаючы з сівой даўніны ? Гэтыя пытанні цікавяць не толькі гісторыка, але, напэўна, і кожнага жыхара Лоеўшчыны.

Дзве самыя старажытныя стаянкі людзей мезаліту - сярэдняга каменнага веку, выяўлены археолагамі ў Лоеўскім раене каля вёсак Рэкорд і Старая Лутава ( якім каля 8 тысяч гадоў). Але есць усе падставы меркаваць, што Лоеўская зямля засялялася яшчэ раней: у палеаліце - старажытным каменным веку. Стаянку бронзавага веку і магільнік ( сярэдзіна II тысячагоддзя да н.э.) археолагі знайшлі каля вескі Дзяражычы. Лоеўшчына была густа заселена ў раннім жалезным веку (YII стагоддзе да н. э. - YII стагоддзе н. э.). Аб гэтым сведчаць 24 гарадзішчы і 12 селішчаў мілаградскай і зарубінецкай культур, знойдзеных і даследаваных археолагамі на тэрыторыі раена.

Хто былі гэтыя людзі? Да якой моўнай сям'і народаў яны належалі ? Вучоныя па гэтых пытаннях пакуль што не прыйшлі да аднаго высновы.

Затое археалагічныя помнікі больш позняга перыяду дазваляюць дакладна вызначыць, што ў IX-X стагоддзях на Лоеўскай зямлі пражывала славянскае племяннoe аб'яднанне дрыгавічоў, якія рассяляліся на поўдні Беларусі ад Лоева да Брэста. Гістарычныя дакументы сведчаць, што ў X-XIII стагоддзях Лоеўская зямля ўваходзіла ў склад Чарнігаўскага княства.

Гісторык і археолаг Ткачоў М.А.сцвярджаў, што ў XI стагоддзі на ўсходняй ускраіне зямлі дрыгавічоў на Дняпры ўзнікла гарадзішча Лоева гара. Каму належала гэтае гарадзішча і землі навокал яго ?

Вядомы даследчык гісторыі нашага краю Рогалеў А.Ф. выказвае слушную думку, што першым валадаром Лоевай гары мог быць легендарны Лой. Аб тым, што такое імя на самай справе існавала, сведчыць зафіксаванае ў летапісе пад 1351 годам асабовае імя Ходка Лоевіч, магчымага нашчадка таго самага Лоя. А калі так, то кім быў гэты чалавек - Лой ? Першапасяленцам на Лоевай гары ? Князем - заснавальнікам племені, што прыйшло да Лоевай гары на сталае жыхарства ? А, магчыма, баярынам чарнігаўскага князя, які атрымаў ад яго лоеўскую зямлю ў спадчыннае ўладанне за адданую службу ? Адказу на гэта пытанне ў гістарычных крыніцах пакуль што не знойдзена. Калі ж такое здарыцца, тады ў нас будуць усе падставы сцвярджаць: « Калі ў Тураве валадарыў Тур, то ў Лоеве - Лой «.

Летапісы сведчаць, што ў 1356 годзе пры вялікім князю Альгердзе Чарнігаўскае княства, разам з Лоевам, увайшло ў склад Вялікага княства Літоўскага. Напэўна, у тыя часы Лоеўшчына ўвайшла ў склад земель, якія асабіста належалі вялікаму князю ВКЛ. Таму што ў другой палове XY стагоддзя землі паўд-

*Працяг на ст.5*

НАВІНЫ І ІНФАРМАЦЫЯ

## Інцыдэнт на беларуска-украінскай мяжы

*Аўтаматная чарга з катэра атрада пагранічных катэраў Гомельскага пагранатрада ў бок Украіны стала прадметам разбору двухбаковай беларуска-ўкраінскай камісіі, якая расследуе прымяненне зброі беларускімі пагранічнікамі.*

*Як стала вядома «Інтэрфаксу», на мінулым тыдні ( 16-23 ліпеня - Рэд.) пры патруляванні ракі Днепр, па якой праходзіць дзяржаўная мяжа паміж Беларуссю і Украінай у Брагінскім раене, экіпаж катэра пачаў праследаванне з мэтай затрымання рыбацкай лодкі з грамадзянамі Украіны, якая знаходзілася ў водах Беларусі. Калі плаўсродак перасек лінію мяжы, што ўмоўна праходзіць па фарватару ракі, пагранічнікі зрабілі, як яны сцвярджаюць, папераджальныя стрэлы ў бок праследуемых.*

*Адзін з затрыманых грамадзян Украіны быў дастаўлены ў Гомельскі пагранатрад і пасля разбору адпушчаны. Як паведаміў карэспандэнту «Інтэрфакс» адзін са стараны афіцэраў пагранатрада, «службовы разбор яшчэ не завершаны, але, хутчэй за ўсе, зброя прыменена неадэкватна сітуацыі».*

*Інтэрфакс. «Звязда» 28 ліпеня 2000 г.*

*Пачатак на ст.4*

нева-усходняй Беларусі, з Лоевам у тым ліку, былі падараваны ім князю Івану Андрэевічу Мажайскаму, паходзіўшаму з рода вялікіх маскоўскіх князеў, але вымушанага ратавацца з сям'ей у ВКЛ ад ганенняў маскоўскага князя Васіля Цемнага. Пасля смерці Івана Мажайскага князем і валадаром гэтых зямель стаў яго сын Сямен Мажайскі.

У 1500 годзе, калі пачалася вайна паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай, князь Сямен Мажайскі пераходзіць на старану Масквы і ўдзельнічае ў вайне (1500-1503 гг.) на баку маскоўскага князя Івана III. Гэта вайна была няўдалай для ВКЛ, амаль усе Чарнігаўска-Северскае княства па замірэнню 1503 года перайшло да Масквы.

Пасля гэтай падзеі мяжа дзвюх дзяржаў наблізілася да сцен Лоева. У гэтыя часы Лоеў - прыгранічнае паселішча і замак - зведалі некалькі спусташальных набегаў крымскіх татараў і рускіх. Дакладна вядома аб трох паходах крымскіх татараў праз Лоеў углыб ВКЛ у 1505, 1536, 1538 гадах. У гэты перыяд Лоеў з'яўляецца зноў уладаннем вялікага князя ВКЛ, а Лоеўскі замак адыгрывае важную абарончую ролю на памежжы з Рускай дзяржавай. Менавіта таму ў другой палове XYI стагоддзя славуты канцлер ВКЛ Леў Сапега «властным накладом своим» аднавіў за кошт дзяржаўнай казны замак на шляху татарскім на Лоевай гары.

Вядома, што напярэдадні Люблінскай уніі 1569 года Лоеўская зямля разам з Украінай прывілеем караля Польшчы і вялікага князя ВКЛ Жыгімонта II Аўгуста была далучана да Польшчы, а затым увайшла ў склад Рэчы Паспалітай. З канца 16 стагоддзя Лоеў - мястэчка і цэнтр Лоеўскага староства.

Вядома з гістарычных крыніц, што ў 1646 годзе на галоўным сойме Рэчы Паспалітай Лоеўскае староства было далучана да Старадубскага павета Смаленскага ваяводства ВКЛ за вернуты Расіі Трубчэўск, а ўжо ў 1667 годзе увайшло ў склад Рэчыцкага павета Мінскага ваяводства.

Пакуль што нам вядома імя толькі аднаго лоеўскага старосты тых часоў - Казіміра Халецкага, які быў адначасова і старостам мазырскім. З гістарычных дакументаў вядома, што Казімір Халецкі меў дачыненне да ўтварэння Веткаўскай слабады, бо ў 1685 годзе з яго дазволу расійскія стараверы-перасяленцы заснавалі на востраве ракі Сож сваю першую на Беларусі слабаду.

У 1676 годзе большая частка Лоеўшчыны разам з мястэчкам была падаравана каралем Рэчы Паспалітай у спадчыннае ўладанне князю Станіславу Міхалу Юдыцкаму, падкаморнаму і войту рэчыцкаму, а затым належала яго нашчадкам. Гэта было вялізнае памесце. Дастаткова сказаць, што ў яго ўваходзіла большасць весак, зямель і лясоў Лоеўшчыны, за выключэннем сучасных тэрыторый Сяўкоўскага, Ручаеўскага, Малінаўскага, Уборкаўскага саветаў і весак Чаплін і Страдубка. Прывілея, які б пацвердзіў гэта дараванне пакуль намі не знойдзена.

Але пэўныя звесткі аб уладарах Лоеўскай зямлі з рода Юдыцкіх пашчасціла знайсці ў першым томе кнігі польскага гісторыка Рамана Афтаназія «Захаваўшыяся палацы на даўніх крэсах Рэчы Паспалітай», выдадзенай у Вроцлаве ў 1991 годзе. Акрамя Лоеўскага ключа ( так у кнізе Р.Афтаназія - М. А) разам з землямі, лясамі і вескамі С.М.Юдыцкі валодаў таксама памесцямі Гальдовічы і Дзянісаўшчына Навагрудскага ваяводства. Станіслаў Міхал Юдыцкі паходзіў са славутага роду беларускай шляхты, якая мела радавы герб Радван. Ен быў жанаты на Сафіі Капцэўне і меў чатырох сыноў.




***Герб Радван, якім валодалі валадары Лоеўскай зямлі з роду Юдыцкіх.***

Пасля смерці С.М.Юдыцкага ў 1701 годзе Лоеўскае памесце атрымаў у спадчыну яго старэйшы сын Антоній, дэпутат сойма Рэчы Паспалітай, падкаморны, а ў апошнія гады свайго жыцця - войт рэчыцкі. Пасля смерці Антонія Юдыцкага ў 1729 годзе Лоеўшчынай валодаў яго сын Міхал, таксама войт рэчыцкі і маршалак трыбунала літоўскага. Акрамя дочак, Міхал Юдыцкі меў двух сыноў - Антонія і Юзафа. Пасля яго смерці ў 1758 годзе Лоеўшчына перайшла да малодшага сына Юзафа, генерал-лейтэнанта, старосты стралкоўскага і рэчыцкага, дэпутата сойма.

Напэўна, пры Юзафе Юдыцкім, пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай і далучэння Лоева да Расійскай імперыі ў 1793 годзе, уладарам Лоеўскага памесця давялося даваць прысягу на вернасць імператрыцы Кацярыне II.

Вядома, што Юзаф Юдыцкі быў жанаты ў першы раз на Марыі Агінскай, дачцы ваяводы віцебскага, а пасля яе смерці на Элаізіі Радзівілаўне, дачцы рэчыцкага старасты. У яго было два сыны. Ян памер у 1831 годзе, і ў яго не было дзяцей. Таму Лоеўскае памесце атрымаў у спадчыну малодшы сын - Юзаф. Вядома, што быў ен жанаты тройчы і меў аднаго сына Станіслава і некалькі дачок. Спачатку Юзаф перадаў паўночна - усходнюю частку памесця разам з вескай Суткоў у спадчыну свайму сыну Станіславу, памершаму раней бацькі, у 1828 годзе. Перад смерцю, у 1841 годзе, Юзаф Юдыцкі, апошні прадстаўнік рода Юдыцкіх па мужчынскай лініі, падзяліў два маенткі Лоеўскага памесця паміж двумя дочкамі. Маентак на паўночнай ускраіне Лоева атрымала ў спадчыну Ідалія, якая выйшла замуж за Адама Максіміліяна Нару-

*Заканчэнне на ст.6*

*Пачатак на ст.4*

шэвіча, а Сафія, выданая за Н. Лашча, атрымала маентак у цэнтры Лоева - на Лоевай гары. Есць звесткі, што ў склад Лоеўскага памесця ў гэты час уваходзілі землі з населенымі пунктамі Лоеў, Мохаў, Казярогі, Грамыкі, Каўпень, Крупейкі, Шчытцы, Сінск, Бывалькі, Трасцянец, Цясны, Дзяражычы, Добры Рог, Берасneўка, Чамярысы, Хракавічы, Малажын.

Дачка Станіслава Юдыцкага Юлія выйшла замуж за Н. Рудзіеўскага і ўключыла Суткоўскае памесце ў спадчыннае ўладанне свайго мужа. Менавіта Н. Рудзіеўскім на пачатку 19 стагоддзя быў пабудаваны на маляўнічым беразе Дняпра ў весцы Суткоў цудоўны цагляны палац, які захаваўся да нашага часу.

Пасля смерці Юліі Юдыцкай у 1839 годзе, яе сын Генрых Рудзіеўскі з прычын невядомых прадаў Суткоўскае памесце ў 1870 годзе Чайкоўскай, ад якой памесце гэта хутка выкупіў Бараноўскі, сям'я якога была апошнім уладальнікам гэтага памесця да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Пасля ж рэвалюцыі ў палацы была створана Дняпроўская камуна, а зараз ен выкарыстоўваецца пад Суткоўскую сярэднюю школу.



***Сядзібны дом Рудзіеўскіх-Бараноўскіх у весцы Суткоў. Помнік архітэктуры класіцызму ( пачатак 19 стагоддзя ).***

Старажылы сцвярджаюць, што апошнімі ўладарамі Лоеўскага памесця былі браты Лашчы - Станіслаў і Герман. Станіславу дастаўся маентак у цэнтры Лоева і землі, якія належалі яго маці Сафіі Лашч.

А вось пры якіх абставінах да Германа Лашча перайшоў маентак Нарушэвічаў, нам пакуль што невядома. Напэўна, ен быў выкуплены Лашчамі.

Палацы Лашчоў былі драўлянымі, пабудаванымі на мураваным фундаменце. У палацы Станіслава Лашча пасля рэвалюцыі размяшчаўся валасны рэвалюцыйны камітэт, а затым школа. Вядома, што ен згарэў адразу пасля вызвалення Лоева ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 годзе. У палацы Германа Лашча на паўночнай ускраіне Лоева доўгі час была кантора мясцовага калгаса, а затым саўгаса «Лоеўскі». Палац быў разабраны недзе ў 50-х гадах.

Як склаўся лес апошніх уладароў Лоеўскага і Суткоўскакага памесцяў пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі - нам невядома.

Гэтыя звесткі аб валадарах Лоеўскай зямлі былі б няпоўныя, калі б мы не паспрабавалі адказаць на пытанне: каму належалі іншыя землі Лоеўшчыны, якія не ўваходзілі ў склад лоеўскага памесця Юдыцкіх.

Есць дакументальныя звесткі, што вескі Страдубка і Чаплін разам з землямі навокал належалі холмецкаму памешчыку князю Міхаілу Рафаілавічу Ракіцкаму і яго нашчадкам.

Старажылы сцвярджаюць, што землі навокал вескі Рудня-Бурыцкая належалі памешчыку Бурэцкаму, землі вакол вескі Грохаў - памешчыку Гроху, вескі Сяўкі - памешчыку Севе, а каля вескі Ліпнякі - памешчыку Канаплеву. Але, на жаль, дакументальных пацверджанняў гэтых звестак намі пакуль што не знойдзена, таму праца ў гэтым накірунку будзе прадоўжана.

***Мікалай Анісавец***

**КАРАНІ**

***Ответственный за выпуск: Владимир Кастеев***

***Ежемесячный информационной бюллетень Лоевского гражданского объединения содействия сохранению окружающей среды и культурно-исторического наследия "Карані".***
***Издается при технической помощи Гомельского областного объединения "Гражданские инициативы".***
***Контактный телефон : (02347) 2-03-17.***
***Тираж 299 экз.***